Год II. Нядзеля, 15 студня 1922 г. ( 2 января 1922 г.) № 3

# БЕЛАРУСКІЯ ВЕДАМАСЬЦІ

АДРЭС РЭДАКЦЫІ і КАНТОРЫ: Вільня, Вострабрамская 9 (Wilno, Ostrobramska 9).
Адчынена што дня, апрача сьвят, ад 11 да 2 гадзіны.

Падпіска з паштовай перасылкай на 3 месяцы 400 п. м., на 6 мес. 750 п. мар. За граніцай у два разы даражэй.
Цана абвестак: 75 польск. мар. за радок самага дробнага шрыфту.

Рукапісы павінны быць напісаны чытальна і толькі на адным баку паперы, з праўдзівым прозьвішчам пісаўшага і адрэсам яго (для ведама Рэдакцыі). Няпрынятыя у друк рукапісы назад не аддаюцца. Аплата надрукаванага залежыць ад Рэдакцыі.

**№ каштуець 30 польск. мар.**
Газэта выходзіць раз у тыдзень.

## Што чуваць у сьвеце?

### Пастановы канфэрэнцыі ў Вашынгтоне.

Вашынгтонская канфэрэнцыя прызнала патрэбным, каб чужаземныя войскі выйшлі з Кітая, каб на вайне ня было ўдушлівых газаў і каб падводныя чаўны не нападалі на гандлёвыя караблі без папярэджаньня іх аб нападзе.

### Канфэрэнцыя ў Канах.

У Каны зьехаліся для нарады старшыні міністраў вялікіх дзяржаў. Першы сход адбыўся 6 дня гэтага месяца. Канфэрэнцыя пастанавіла склікаць вясною ў Гэнуі (Італія) эканамічную нараду вялікіх дзяржаў з Нямеччынай і Расеяй. Чычэрын выслаў Вярхоўнай Радзе паведамленьне, што савецкі ўрад з задаваленьнем прыняў запрашэньне на канфэрэнцыю ў Гэнуі.

### Англія і Расея.

Сярод ангельскіх палітычных кругоў ёсьць вестка, што Англія неўзабаве прызнае савецкі ўрад Расеі дэ-юрэ (па праву).

### Англія і Нямеччына.

Ходзяць чуткі, што Англія гатова адмовіцца на карысьць Нямеччыны ад 450 мільёнаў золатам, не вымагаючы ад Францыі адмовы ад яе прэтэнсіяў.

### Голас ангельскага пралетарыяту.

У часе апошняй канфэрэнцыі Лёйд-Джорджа з Брыянам ангельскія рабочыя падалі Л.-Джорджу мэморыял з трэбаваньнем зьмены палітыкі адбудовы, прызнаньня бальшавікоў, адмены акупацыі Рэйну, склікаyньня эканамічн. канфэрэнцыі для адбудовы Эўропы і адчыненьня крэдыту Нямеччыне.

### Справа Ірляндыі.

Правадыр ірляндцаў дэ-Валера ўнёс ў ірляндзкі парлямэнт прапазыцыю, трэбуючы сувэрэннасьці Ірляндыі, і неабавязковасьці прысягі ангельскай кароне.

◆ Ірляндзкі парлямэнт прыняў англа-ірляндзкі дагавор 64 галасамі проці 54. Дэ-Валера выходзіць у адстаўку.

◆ Афіцыяльна паведамляецца аб падпісаньні англа-ірляндзкага дагавору. Дэ-Валеру заменіць Графіц.

### Паўстаньне ў Эгіпце супроць ангельскага панаваньня.

З Каіру паведамляюць, што Загдуль-паша з пяцьма эгіпецкімі нацыяналістамі высланы на востраў Цэйлён.

◆ У паўночным Эгіпце заўважаецца заспакаеньне.

### Індусы супроць ангельскага панаваньня.

Паводлуг вестак з Ахмедабаду індускі нацыянальны зьезд прыняў рэзалюцыю аб пераходзе кантролю над урадам у рукі народу.

### Расея і Кітай супроць Японіі.

Савецкі ўрад запрапанаваў кітайскаму ўраду зрабіць ваенны хаўрус супроць Японіі.

◆ Паміж войскам рэспублікі Далёкага Усходу і Прыморскай белай арміяй памацнелі баі. У Чыце і Срэценску мабілізованы ўсе камуністы дзеля франтовай службы.

◆ Савецкая прэса, паведамляючы аб заняцьці белагвардзейцамі Хабараўску, вінаваціць іх у зьдзеках над камуністамі й савецкімі служачымі.

### Паўстаньне ў Карэліі.

Чырвоная армія перайшла ў наступленьне на ўсім карэльскім фронце.

◆ Бальшавікі афіцыяльна паведамляюць: «Нашыя войскі занялі Порсо—возэра. Праціўнік адыйшоў да граніцы Фінляндыі. У аддзеле з 500 бандытаў было толькі 60 карэльцаў; правадырствавалі фінляндскія афіцэры. У іншых кірунках банды паўстанцаў пасьпешна адходзяць да граніцы Фінляндыі. На паўночнай дзялянцы мы занялі Канасьліскую.»

◆ Бальшавікі патрэбавалі выдаленьня Фінляндскае рээвакуацыйнае камісіі з Расеі ў 24 гадзіны. Фінляндыя заявіла рашучы пратэст.

◆ Бальшавікі прасьледавалі аддзел карэльскіх паўстанцаў за фінляндскую граніцу на 40 вёрст у глыбіню фінляндскай тэрыторыі, да Міргрыярві. Фінская пагранічная варта адыйшла пасьля нядоўгага бою.

◆ Фінляндзкі ўрад заявіў у Маскве пратэст супроць заняцьця бальшавікамі Міргрыярві.

### Украіна і Бесарабія.

На ўсеукраінскім камуністычным зьездзе Ракоўскі заявіў, што сав. Украіна ня мае прэтэнсіі на Бесарабію, але трэбуе, каб лёс гэтага краю быў вырашаны бесарабскімі рабочымі й сялянамі.

### Помач галадуючым расейцам.

Швэдзкі камітэт падмогі Расеі зрабіў прапазыцыю аб асыгнаваньні яшчэ аднаго мільёна кронаў на падмогу галодным, апрача асыгнованнага ўжо паўмільёна.

### Сэрба-італійская спрэчка.

З Вены паведамляюць, што разрашэньне сэрба - італьянскага канфлікту будзе перадана не ў Вярхоўную Раду, а ў Лігу Народаў.

### Чэха-Славаччына і Францыя.

На запрашэньне прэзыдэнта Францускай Рэспублікі Мільерана, чэхаславацкі прэзыдэнт Масарык разам з прэм'ер-міністрам Бэнэшам выяжджаюць у Парыж.

### Салдацкая служба ў Польшчы.

У польскім сойме разглядаўся законапраект аб ваеннай службе. Армія ў мірны час праектуецца ў разьмеры 250 тыс. Тэрмін службы—2 гады. Прызыўны век 21 год.

---

## Літоўскія справы.

### Нота ў справе віленскіх выбараў.

Літоўскі ўрад падаў у Лігу Народаў рашучую ноту пратэсту супроць Віленскіх выбараў. У ноце сказана, што выбары прайшлі ў ненармальных варунках, бо засталіся войскі і адміністрацыя, а аддаліўся толькі ген. Жэлігоўскі; ў адносінах да літоўцаў прыстасоўваліся ваенныя законы, а да іх прэсы — рэпрэсіі. Літоўскі ўрад кажа, што ня прызнае падобнага Сойму ні ў якім выпадку. Нота падпісана Клімасам.

### Яўрэйская Народная Рада.

Літоўскі ўрад прызнаў дэ-юрэ (па праву) Яўрэйскую Народную Раду.

◆◆◆◆

## Жыцьцё у Савецкай Беларусі.

(Па ведамасьцях менскіх газэт).

### Падпіска на газэты.

Як вядома, цяпер ужо ў Савецкай Фэдэрацыі можна выпісываць газэты.

Вось для цікаўнасьці, абвестка аб падпісы на самую пашыраную штодзенную газэту ў Менску на беларускай мове: „Прымаецца падпіска на газэту „Савецкая Беларусь“. Падпісная плата на месяц без перасылкі 25.000 руб., з перасылкай—27.000 руб. Для партыйных і рабочых арганізацыяў, рабочых суполак, культ.—асьветных устаноў — 15.000 руб. на месяц без перасылкі. Кошт аднаго нумару ў продажы 1.000 руб. Падпіска прымаецца ў контр-агенцтве пры Дзяржаўным Выдавецтве“.

### Як дзеляць і засяваюць зямлю.

(Магільнянская вол. Менскага павету).

„Двор „Яўніца“ Магільнянскай воласьць падзелен між сялян. Мясьцечка Магільна ў гэту восень выяўляла нейкае страшнае ўражаньне. Сярод зеленеючага азімага жыта выглядалі чорныя доўгія палосы незасеянай зямлі. Сяляне тлумачылі гэтакае становішча тым, што зямля дзялілася полосамі на безьзямельных і малазямельных. Хто меў каня, той заараў і пасеяў, а хто ня меў, зямля таго засталася незасеянай. Больш сваей дзялянкі ніхто з сялян не хацеў засеяць, бо калі дзялілі зямлю, загадчык зямельнага аддзелу загадаў, каб кожны засеяў толькі сваю дзялянку. Вось дык загадчык! Надзяліў усіх зямлей, але забыўся паклапаціцца, каб яна была ўся засеянай“.

### Савецкая гаспадарка.

(Сяло Кімня, Барысаўскага пав.).

„У нас ёсьць савецкая гаспадарка „Другі Ключ“. Мае яна 250 дзесяцін зямлі, з якой 50 дзесяцін ворнай. Есьць пры ёй адміністрацыя і канцэлярыя і многа іншага, а будова да гэтай пары ня мае шыбаў у вокнах. Адміністрацыя, як відаць, мае мэту ня сеяць, ня жаць, а толькі напаўняць сваю жытніцу. У гэтым дапамагае малазямельле сялян.

У гэтым годзе сяляне зааралі зямлю савецкай гаспадаркі пад яравы хлеб за тое, каб пасьвіць жывёлу ў яе кустох. Сялянам такая праца не магла быць блізкай сэрцу, бо ім пара было араць сваё поле.

Пакуль сяляне аралі ды баранавалі, адміністрацыя маўчала. А калі надумаліся сеяць, пагрозна заявіла: хто не падпіша ўмовы аддаваць трэці сноп ураджаю, таго з поля вон. Пачасалі сяляне патыліцы, расьпісаліся і засеялі.

Пара адміністрацыі пастарацца штонебудзь самой зрабіць, а не чакаць ад другіх карысьці“.

### м. Крайск.

(Карэспандэнцыя „Сав. Беларусі“).

«У м. Крайску ёсьць каапэратыў. Прайшло ўжо даволі часу, як ён заложан, але і дагэтуль гандаль у ім вядзецца вельмі цікава: то па колькі дзён дзьверы ў ім зачынены, то нарэд-час у ім пачынаецца шум, гвалт, сварка, дзеля чаго іншы раз прыходзіцца сябрам каапэратыву ставіць у дзьверах часавога з аружжам, каб хоць крыху спыніць публіку.

Гэткае скапленьне народу бывае тагды, як толькі з Менску прывязуць тавары. У першы чарод расхопліваюць газу, пасьля соль, скуру, лакцёвы тавар. Выпадкова мне давялося бачыць, як зранку бабы подбегам беглі ў Крайск каб заняць першую чаргу ў каапэратыве: іншым прыходзіцца стаяць на марозе па колькі гадзін. каб атрымаць які фунт газы. Але шмат каму прыходзіцца ісьці дамоў, з пустой бутэлькай (добра калі яшчэ не пабітай), бо газы ўсім не хапала. Праз дзень-два каапэратыў зноў зачыняецца, бо ў сяродку ўжо, замест расхапанага тавару, ляжыць вагромністая куча жыта.

Цікава, кажуць, што па другіх каапэратывах можна хоць у які дзень пайсьці і атрымаць газы. Калі толькі ў Менску хапае газы на ўсе каапэратывы, дык сябры Крайскага каапэратыву няхай добра падумаюць аб тым, каб і ў іх было яе даволі.

Кажуць яшчэ, быццам, у Менскім складзе ёсьць шмат лакцёвага тавару (мануфактуры), але, быццам склад дае толькі патрошкі. Чаму? Праз усё гэта каапэрацыя нясе вялізны ўбытак.—Т а ў р о“.

---

## Беларусы пад Маскоўшчынай.

### Справа Усходняй Беларусі.

З Масквы нам пішуць:

Справа Усходняй Беларусі ўзышла на добры шлях. Чакайце ў недалёкім часе дужа важных навін.

### Расейскае грамадзянства цікавіцца беларусамі.

У прывітальным пісьме нашай газэце студэнт-беларус піша з Масквы:

За астатнія месяцы тут зроблена вялікая арганізацыйная беларуская работа.

Пра беларусаў загаманіла расейскае навукова-грамадзкае вобчаства. Нашыя справы, асабліва культурна-эканамічныя, бяруць блізка да сэрца такія прафэсары, як Н. Кулагін, Ал. Фартунатаў, А. Чаянаў і інш. Студэнты-расейцы дзівяцца нам і навет просяцца ў Асоцыяцыю Беларускіх Студэнтаў.

### Беларускі аддзел.

У Маскве выйшаў журнал „Дни нашей жизни“ з вялікім беларускім аддзелам.

### Беларуская кніга — ходкі тавар.

З Масквы прыйшло пісьмо ў Віленскую Беларускую Кнігарню з просьбаю паведаміць аб цэнах на беларускія кнігі ў залатых рублёх. Кнігі патрэбны для масавага пашырэньня ў Віцебшчыне і Гомельшчыне.

---

## Беларусы у Латвіі.

### Патрэба ў кнігах.

Беларускі Аддзел пры Міністэрстве Прасьветы ў Латвіі купіў нядаўна ў Вільні і вывез у Рыгу і Дзьвінск партыю беларускіх кніг, галоўным чынам школьных падручнікаў, на паўтара мільёна польскіх марак. Куплены кнігі, друкаваныя гражданкаю і лацінкаю.

### Тэатр і хор.

З урадовай латвійскай дапамогай арганізуецца ў Латвіі пастаянны перазны беларускі тэатр і хор.

### Вучыцельскія курсы.

На беларускія вучыцельскія курсы ў Дзьвінску запісваецца надта многа

дасяжэньня належнага яму мейсца. Мы жадаем бачыць Саюз цэлай і неразарвальнай істотай, жычым яму шчасьця ў далейшай працы і заклікаем усе грамадзкія дэмакратычныя сілы да супольнай працы".

## Ухвалы зьезду.

I. *У справе абвінавачаньняў старое Управы Саюзу*:

„У-ва ўсіх дэфэктах дзейнасьці быўшае Управы Зьезд не заўважыў злое волі.

„Крэпка веручы, што нова-абраная Управа прыложыць усё сваё стараньне дзеля пладатворнае працы на дарозе да разьвіцьця каапэратыўнага жыцьця краю, Зьезд пераходзіць да чародных справаў, захоплены агульным гарачым пажаданьнем захаваньня і разьвіцьця Віленскага Саюзу Каапаратываў, як арганізацыі агульна-краёвай".

II. Аб *працаўнікох Саюзу*:

„Маючы на ўвазе, што зьменшаньне лічбы працаўнікоў Віленскага Саюзу Каапэратываў, праведзенае згодна з пастановай Рады Саюзу, становіць крок часовы, Зьезд пастанаўляе даручыць новай Управе, каб супольна з прадстаўнікамі Рады і Рэвізыйнае Камісіі апрацавала і правяла ў жыцьцё новыя штаты працаўнікоў Цэнтралі Саюзу — з тэй умовой, каб адначасна з зьменшаньнем лічбы працаўнікаў плата за працу была павялічана да вышыні норм, якія устаноўлены мясцовымі профэсыянальнымі арганізацыямі".

III. *У справе кантролю*:

„Побач з Рэвізыйнай Камісіяй арганізаваць папярэдні і наступны кантроль як у Цэнтры, так і фактычны аб'ездны кантроль у Пунктах і Філіях".

IV. Аб *Юрысконсульце*:

„Пры апрацоўцы новых штатаў прызнаць пажаданым стварэньне становішча Юрысконсульта".

V. *У справах фінансавых*:

I. Зьезд паўнамоцнікаў Віленскага Саюзу Каапэратываў:

а) даручае Управе Саюзу энэргічнае атрымліваньне з Саюзных таварystваў пая ў Саюз у разьмеры, устаноўленным Зьездам паўнамоцнікаў у 1920 годзе.

б) даручае Управе Саюзу прадставіць чароднаму Зьезду паўнамоцнікаў сьпіс Саюзных таварystваў ня ўнёсшых поўнага пая (пункт а) дзеля выключэньня гэтых таварystваў з Саюзу.

ц) даручае Радзе Саюзу на сваіх чародных засяданьнях праглядаць сьпісы Саюзных Таварystваў для апрацоўкі супольна з Управай Саюзу крокаў дзеля больш усьпешнага павялічаньня паёвага капіталу Саюзу.

д) прапануе ўсім Саюзным таварystвам павялічыць паёвыя ўзносы асобных сяброў таварystваў шляхам дадатковых паёў у разьмеры найменш 1. 000 мк. ад кожнага сябра таварystва з тым, што, залежна ад зьмены вартасьці маркі, пай павінен быць павялічаны.

Усе Саюзныя Таварystвы павінны на сваіх агульных сходах у часе да 1 красавіка 1922 году правясьці пастановы аб узносе дадатковых паёў у сваіх таварystвах і прыступіць да атрыманьня гэтых паёў, паднімаючы на сходах таварystваў пытаньне аб выключаньні з таварystва сяброў, ня слухаючых гэтае пастановы.

II. Зьезд паўнамоцнікаў Віленскага Саюзу Каапэратываў, выражаючы надзею, што Тымчасовая Урадуючая Камісія „Сярэдняе Літвы" ня будзе затрымліваць рэгістрацыю Статуту і арганізацыі Каапэратыўнага Банка, Статут якога пададзен на зацьверджаньне ў лістападзе 1921 г., даручае Управе Саюзу супольна з Радаю Саюзу высьвятліць адносіны Тымчасовай Урадуючай Камісіі „Сярэдняе Літвы" да легалізацыі Каапэратыўнага Банку і прыняць сьпешныя меры да арганізацыі Банку.

III. Прыймаючы пад увагу саюзу Часовай Камісіі аб тым, што ў часе быўшай дзейнасьці Саюзу ў агульным ліку надвыжкі на тавары знаходзіцца ня толькі частка, якая пакрывае арганізацыйныя выдаткі, згодна з пастановай Зьездаў, але таксама і другая частка, якая была ўведзена на папаўненьне ўпаўшае пакупнае вартасьці плацёжнага знаку, каб такім чынам хоць часткай абараніць пакупную моц паёў таварystваў у Саюзе, — Зьезд Паўнамоцнікаў В. С. К. згаджаецца з прапазыцыяй Часовай Камісіі даць пазваленьне Управе Саюзу на будучыну, пры нармальных гандлёвых варунках, рабіць надвыжку да 10% з тым, што ў выпадку зьменшаньня вартасьці грошы Управа сказаную надвыжку магла-б павялічываць, рахуючы так, каб на выручаныя грошы купіць ня менш тавараў, чым было прададзена.

VI. Аб *справах гандлёвых*:

„Зьезд паўнамоцнікаў Віленскага Саюзу Каапэратываў, выслухаўшы справаздачу аб гандлёвай дзейнасьці Саюзу за мінулы час і плян дзейнасьці на будучыну, згодна з прапазыцыяй Тымчасовае Урадуючае Камісіі даручае новай Управе:

1) Выкарыстаць памысныя варункі рынку дзеля закупу Саюзам розных тавараў з першых рук вялікімі партыямі.

2) Дзеля самага поўнага правядзеньня прынцыпу супольных выступленьняў каапэратываў на агульным рынку—пашырыць пачатыя ўжо опэрацыі выпаўненьня закупаў сталых і сэзонных тавараў па загадам каапэратываў.

3) Экспэдыцыйна-транспортны аддзел Саюзу прыспасобіць дзеля шыбкага выпаўненьня экспэдыцыі, каб гэты аддзел меў магчымасьць выпаўняць бягучую работу нароўні з конкурэнцыйным прыватным транспортам.

4) Сьпешна апрацаваць і правясьці ў жыцьцё інструкцыю для філій Саюзу і падаць яго дзеля зацьверджаньня найбліжэйшаму чароднаму зьезду паўнамоцнікаў.

5) Бяручы пад увагу тэхнічны бок працы пры здаваліваньні філій Саюзу патрэбнымі таварамі, злучыць у вадно апараты Беняконскае і Багданаўскае філій і перанесьці іх у Ліду—дзеля арганізацыі тамака таварнае базы Саюзу, якая-бы здаволівала і другія філіі (у Опсе, Паставах, Маладзечне, Залесьсі).

6) Арганізаваўшы базу у Лідзе, дагаварыцца з Саюзамі Лідзкім і Навагрудзкім аб арганізацыі супольных закупаў.

VII. Аб *новай Управе*:

Зьезд пастанавіў, што новая Управа мае складацца з трох сябраў і двох кандыдатаў.

Закрытым галасаваньнем выбраны ў Управу: Красоўскі (74 галасы за і 9 проці), Платакіс (73 за і 10 проці) і Пяткевіч (67 за і 17 проці). Кандыдаты: Мілакоўскі і Вялецкі.

VIII. Аб *асновах далейшай каапэрацыйнай працы*:

1) Каапэрацыя павінна быць нацыянальна-нэйтральнай (незацікаўленай нацыянальна). Ні каапэратывы, ні іх Саюзы, у тым ліку і Віленскі Саюз Каапэратываў, ня могуць быць нацыянальнымі арганізацыямі.

2) Нацыянальнае афарбаваньне каапэратываў магчыма пастольку, паскольку яно патрэбна для арганізацыйнае і тэхнічнае работы каапэратыву: дзелаводзтва, рахунковасьці, арганізацыі.

3) Каапэратывы і іх Саюзы, у тым ліку Віленскі Саюз Каапэратываў, не павінны мець ніякае сувязі з палітычнымі арганізацыямі.

4) Зьезд даручае і Радзе апрацаваць і падаць на чародным Зьезьдзе праект статуту, прынімаючы пад увагу гэты рэфэрат, з тым, каб правы Рады былі пашыраны згодна з прынцыпамі каапэрацыі.

IX *У справе аб'яднаньня каапэратыўнага руху*:

У справе аб'яднаньня каапэратыўнага руху ў краю, Зьезд паўнамоцнікаў В. С. К., лічучы, што з усіх іншых каапэратыўных Зьездаў краю ў сучасны мамэнт ён мае найбольшае права на прадстаўнцтва каапэрацыі ўсяго краю, прызнае:

1. Што бязумоўна патрэбна якнайхутчэйшае аб'яднаньне разьбітага каапэратыўнага руху ў адзін агульна-краёвы Саюз,

2. Што прынятыя сучасным Зьездам асновы арганізацыі каапэратыўнае працы найболей адпавядаюць вымаганьням краёвай каапэрацыі,

3. Што ўсе каапэратыўныя арганізацыі краю павінны якнайхутчэй злучыцца ў адзін агульна-краёвы Саюз, да чаго Зьезд іх і заклікае.

X. *Розныя рэзалюцыі*:

1. Зьезд лічыць канечна патрэбным і даручае Радзе і Управе Саюзу, паскольку гэта магчыма, ураз-жа ўзнавіць выдаваньне часопісі „Каапэрацыя" у-ва ўсіх краёвых мовах. Часопісь гэта павінна быць незалежным запраўдным органам краёвае каапэрацыі і гуртаваць каапэратыўную думку і каапэратыўны рух усяго краю.

2. Дапаўняючы рэзалюцыю аб Каапэратыўным Банку, Зьезд пастанаўляе: даць Управе паўнамоцтва ў паразуменьні з Радай Саюзу падпісацца на акцыі Каапэратыўнага Банку на суму шасьцёх мільёнаў польскіх марак.

3. Заслухаўшы справаздачу аб ходзе Зьезду, надрукаваную у № 296 польскае газэты „Gazeta Wileńska", Зьезд пастанавіў: не зварачаць ніякае ўвагі на яе, ведаючы правакацыйнасьць і брахлівасьць гэнае газэты. Пастанову гэту надрукаваць у газэтах.

4. У справе вядзеньня Зьезду Старшынёй яго (кс. Станкевічам) Зьезд адзначае поўную безстароннасць Старшыні адносна да ўсіх учасьнікаў Зьезду.

5. Зьезд пастанавіў, што гадзіны працы ў установах Саюзу павінны быць датарнаваны да патрэбаў вясковых каапэратываў.

6. Зьезд лічыць, што каапэратыўныя арганізацыі павінны быць вольны ад падаходнага падатку, і дзеля гэтага даручае Управе ўчыніць патрэбныя заходы перад урадамі „Сярэдняе Літвы" і Польскае Рэчыпосполітае.

7. Саюз павінен памагаць у легалізацыі статутаў паадзінокім каапэратывам, калі тыя ня маюць магчымасьці самыя гэта зрабіць.

8. Пратаколы Зьезду маюць быць якнайхутчэй разасланы ўсім каапэратывам, якія належаць да Саюзу.

УВАГА. Згодна з пратаколам Зьезду, на Зьезьдзе былі прысутны 94 паўнамоцнікі ад 54 каапэратываў.

## Агульныя увагі.

Цікава адзначыць, што вясковыя дэлегаты, пераважна сяляне, вельмі добра і сьвядома разьбіраліся ў дэбатах, хутка ўяўляючы сабе, дзе праўда і дзе фальш. Разумеючы ўсю вагу арганізацыі каапэратываў, яны голасна заявілі сваю цьвёрдую волю гаспадароў Саюзу, каб спажыўцы ўсіх нацыянальнасьцей ішлі рука ў руку ў змаганьні за сваё эканамічнае вызваленьне.

Гожа також адзначыць, што Зьезд стануў цьвёрда на краёвым становішчы, хаця беларусы мелі вялізарную большасьць. На Зьезьдзе зусім натуральна панавала пераважна беларуская мова, і навет палякі Вольскі і Турчыновіч прамаўлялі пабеларуску, а паляк Пяткевіч высказаў жаль, што ня можа гаварыць гэтай-жа мовай, бо яе ня ведае..

А. Дз.

Максім Гарэцкі.

# За што?

(Апавяданьне).

На ўсходных узьмежках Беларусі, з левага боку Няпра, за дзень летнае хады ад яго, абкружонае з трох бакоў хмызьнякамі рэчкі Плёскі ды балотнаю патапечаю, спрадвеку прытулілася нашае Асмолава — пад узгорачкам пры вялікім некалі шляху з Горада на Шчасны.

Мялеець і нядужае стары нябога Няпро. І патым-таго выбілася з духу Плёска. Дзе зусім царвалася, усохла, кінуўшы знак калішняй магутнасьці — глыбокі замуравелы равок — рэчышча; дзе расьцяклася далінок, зрабілася багнам, вязкім і непраходным, зарасла купнікам і вербалозам; троху-троху блішчыць абы-дзе рудым, як помаз, іржавеньнем сярод зялёнай асакі, залатога балотнага казельцу і курасьлепу. На высокіх купінах — багун, мяцуніца. Тхне зялезам... У позную, цёмную восенную ноч страшыць Плёска сваёю старадаўшчынай і нямою глухатою адзіноту — падарожніка; быццам нешта чорнае сярод купніку вылязае, стаіць, — так здаецца яму.

Заглушэў зусім вялікі стары шлях. Размыт з бакоў веснавымі ручаямі; пакарбачан, як-бы зморшчыўся, даўнымі засохлымі калюгамі; на гарэ парос калматай муравою, а пад гарою — шурпатай мацi—мачыхай. Спусташыўся і змоўк. У дзень і начою, ўзімку і ўлетку маўкліва-патаённа думае думы пустыні, думы аб борзды лёт усяго сярод вечнасьці. Пабіты пярунамі прыдарожныя бярозы. Даканалі іх вогнішчамі багамолы ды падарожнікі і пастушкі. Якія-ж засталіся, — быццам сіроты, маячуць яны, бедныя; старыя, дуплё на дуплі, каравыя. І яшчэ болей навяваюць пустыннаму шляху смутных успамінаў; ціхім, роўным векавечным гоманам вецьця свайго яшчэ болей дадаюць глухаты, маркотнасьці і пустыннасьці.

У кутку крутой дугі, якою тут выгнулася Плёска, сьпіць гара, а на гары — гарадзішча. Нейкія курганкі ці могілкі; заімшэлыя камяні — крыжы, сівыя і бахматыя, са згладжанымі даўгім часам насечанымі літэрамі і незразумелымі нейкімі знакамі; пабітая цэгла; чорны аскялёпак дрэва; дзікое сухазельля са зьвінячымі былінкамі, — больш нічога.

А ніжэй, сярод шырокага сухога логу, ужо ў пазьнейшыя часы пабудавалі шчырыя цёмныя людзі над срабранаю крыніцаю каплічку. На Ільлінскую Пятніцу бывaець тут адправа. З усяе акругі зьяжджаюцца загарэлыя сяляне. Увесь лог, з лёгкім і прыемным араматам пакошанай травы і тонкім пахам дзёгцю, уся дарога і гарадзішча застаўлены вазамі, конямі і белымі шатрамі, поўны людзкога натаўпу і гульлівага гоману. Да трох дзён кіпеў тут некалі кірмаш з бойкім торгам і весялосьцю. Астатнія гады ўсё меней зьбіраецца народу, цішэй гудзяць дуды і галосяць жалейкі; ня так дужа і шчыра пяюць сьляпыя старцы пра таго божага ўгодніка Лазара і толькі дзеля гадзіся пагражаюць пякельным агнём. Пагрыміць часам новенькі венскі гармонік; не зважаючы пройдзець сярод барвіста прыбраных дзевак і сапрэлых мальцаў музыка ў лакірованых ботах з іскрыпкаю пад пахаю і азука - хлапец, яго памагачы з бубнам у ваднэй руцэ і балдавешкаю ў другой; не даючы веры, падзівіцца маладзёж на тры-чатыры столікі з убогімі, занадта сходнай цаны паласункамі і, мінаючы Асмолава, усе пацягнуць над - вечар да мясьцечка Лугвеніна, дзе ёсьць гасьціныя каморы з прыемнай прахалодаю і ня дужа цёплым баварскім півам для вясковых госьцікаў.

Старыя акты гаспадарства, у пярыяды вялікіх разбурэньняў пазаглабаныя да бібліятэк чужых краёў, паважна сьведчуць аб сівой мінуўшчыне мясьцечка, аб яго краснай парэ пад уладай унукаў і праўнукаў князя Лугвенія. А ў мясьцечку а нічога не захавалася. Разбурылася старыннай тутэйшай архітэктуры сінагога са страхою, падобнай троху да стрэх кітайскіх кумірняў, сфатаграфаваная кадаком даўгога, як прасла, з нагамі, як у бусла, жаўтаватага ангельца ў гэтрах, што гасьцяваў у князя ў палацы. І сумятлівая жыдоўская галота з адубелым сумам у біблейных вачох і п'янаватыя, у белых маргелках, падобных да турэцкіх фесак, мужыкі з Асмолава, Гарадца і ўсяе воласьці, з нейкім прыражоным застыглым смуткам у глыбокіх вачох, няўважна месяць гразь на вуліцах Лугвеніна, чвякаючы атопкамі ці шалёпаючы падкованымі ботамі. Ато ўздымаюць шэры, важкі пыл з пахам поту і дзёгцю, уздымаюць там, а дзе некалі зьбіралася вольная рада далёкіх і, як кажуць, магутных і ганарлівых дзядоў цяперашніх агалелых бедакоў, там, а дзе паважна гудзеў радны звон і бразкала вайстрае шабельле.

Сярод старых ліпін і кляноў стаіць ветхі замак князёў Кандыба-Лугвенічаў. За ім далей прысела, быццам якая квакуха, памаляваная летась к прыезду архірэя царква; яшчэ далей—усьцяж крамы з дзьвярмі пад галярэяй, гнілы мост каторы ўвесь у дзірках. Ля крам туляюцца рыбрастыя сабакі і ходзяць, зьбіраючы раструшанае сена, спрытныя козы. Яшчэ-ж далей зьляпіліся кучаю розныя будынкі, манаполька і майстэрня шаўца, адкуль хлопчыкам надта зручна кідаць з-за варотаў шубінаю ў сабак і коз.

Прыяжджаў па вясьне з даўганогім сябрам

## Беларуска.

Паходка роўная — нясьмела,
Затое-ж зграбная яна.
Як майскі дзень хавае цела
Апратка—колер ясны льна.

Гарыць румянцам твар дзявочы,
Каса — палонкі дзьве кудзель;
Як промень зор зіяюць вочы,
Якіх ня бачыў Рафаэль.

Хусьцінка кончыкам зьвісае
На чуць-чуць выгнутых плячох,
Фартух узорны стан сьціскае,
Шнуркі караляў на грудзёх.

На ўсё дасьціпна і гатова—
У завеі, ў сьпекі і ў мароз...
Пра Беларусь гаворыць мова,
А песьня праняміла лёс.

Ф. Ч.

## Палімпсест.*)

Есьць рукапісы, зьмест якіх сьцярты ледзь знаць,
Ці нат' другі упісан сэнс бязбожна.
Іх палімпсестамі--вучоным словам--зваць,
І першы іхні змысл пайме ня кожны.
Краіна родная! Так сталася й з табой.
Багацьце й харассво тваe прыроды
І прошласьць слаўную зьмяшаў чужак з гразёй
І словы вывеў гідкія для зводу.
Але народны дух, разьбіўшы мур турмы,
Здалеў вяковы бруд паганы зьмесьці
І з дзіўнай любасьцю чытаем тое мы,
Што захавалася на палімпсесьце.

Валадзімер Жылка.

* * *

Маркотных пільных зор яшчэ дрыжыць вузор
Над сьпячаю зямлёй.
Над люстрамі вазёр, ля цёмна-сініх гор
Туман лёг пеляной.
Ўсё сьпіць і ўсё маўчыць...
На лісьцейках бяроз маладзіковых кос
Блеск белы дагарэў...
На поле ў кроплях сьлёз ўжо вецер ціха нёс
Прыгожы нечы сьпеў.
Ўсё сьпіць і ўсё маўчыць...
Прадчуцьцяў сумных рой над хвораю душой
Бы павучыньне тчэ...
З нясказанай жудой заплакала-б парой
Ды сьлёз няма ў мяне...
Душа баліць, дрыжыць...
Я кінула-б жыцьцё, абрыдла мне яно,
Памерці-бы, пайсьці...
Усюды гора, зло, халодна, цёмна ўсё
І праўды не знайсьці...
Душа баліць, дрыжыць...

Натальля Арсеньнева.

*) Гэтак у старадаўных народаў называлася пергамантная рукапісь, на якой было зьніштожана раней напісанае і пасьля напісана другое.—Рэд.

## Песьня начою.

Я люблю гэту чорную ноч!
Вецер вочы цалуе мае,
І шуміць, і бярэ маю моц...
І так хораша сэрцу і мне.
Я люблю гэту чорную ноч...
Чорнай ноччу я бачу вясну
І вясьне аддаю сваю моц,
Бо люблю, і пяю, і жыву!

М. Запольскі.

## Вайна.

Што, вайна, ты нарабіла, што з сабою прывяла, колькі ты людзей згубіла, колькі гора прынясла?! Колькі енкаў, сьлёз пакуты ў гэты час сьцярпеў народ, колькі голых, неабутых ў нас засталося сірот!

Усю зямельку ты зьнішчыла, ўсе дастаткі адняла, равы ўсюды пакапала, калючым дротам апляла. Куды лясы ты падзявала -- красу прыроды прыняла? Нашто людзей паразганяла і што ўзамен ты ім дала? Куды дастаткі ты дзявала, што навет й солі не дастаць? Нашто будынкі збушавала, што многіх вёсак ня відаць?

Чаму на плодненькай зямліцы лапух расьці стаў і асот? Няма ні хлеба ні пшаніцы... Зашто пакутуе народ?

Чаго ты толькі ня прыдбала, каб людзей сьмерцьцю замарыць! Гарматаў, стрэльбаў наспраўляла і газам стала іх труціць.

Калі ад нас правалішся? Людзкой крыві нап'ешся, калі касьцьмі падавішся, на векі захлынешся?

Дзядзька Язэп.

# КАРЭСПАНДЭНЦЫІ.

### П'яная паліцыя.

(М. Вязынь, Вялейск. пав.)

23. XII. 21 г. На мясцовага жыхара В. Н. напалі на вуліцы два п'яныя паліцыянты і чуць не забілі. Каб знайсьці яшчэ каго пабіць, яны бегалі, як ашалелыя, па вуліцах, а пасьля трапілі ў другую вёску на вечарыну, дзе маладыя хлопцы зрабілі скокі сваім кампанам--навабранцам, каторыя на другі дзень павінны былі ехаць у Вялейку.

Там адзін паліцыянт удэрыў дзяўчыну, каторая не захацела з ім—п'яным скакаць, а пасьля паліцыянты прычапіліся да аднаго рэкрута і хацелі яго нізашто арыштаваць, але другія адпрасілі.— С. Саха.

### Стойка.

(Вязынская вол. Вялейск. пав.).

Надта даецца ў знакі жыхарам нашае воласьці стойка. Няхай ўжо прыходзіцца даваць кажды дзень амаль дзесяць фурманак у воласьць, але яшчэ трэба пасылаць у Вялейку. Гэтак было паслана ў Вялейку 17. XII.—100 фурманак, 18. XII.—70 і 20. XII—60. Фурманкі гэтыя возяць аж з-пад Маладзечна ў Вялейку дровы. Яшчэ гэта было-бы нічога, каб ува ўсіх былі коні добрыя ды каб кожны іх меў, ато ў некаторых коні чуць ходзяць, у другіх іх няма, а трэція зусім ня езьдзяць на гэту павіннасьць. Шляхцюкі лезуць у вураднікі, каб толькі не стаяць стойку, а калі каторы не папаў у апошнія, дык стараецца ўладзіць справу з гмінаю так, каб ня езьдзіць, а гэта ім удаецца.—С. Саха.

## Пісьмо сялян у газэты.

У нашу Рэдакцыю прыйшло пісьмо, якое тут друкуем бяз усякіх зьмен і паправак:

„Гэтым маем гонар шчыра прасіць усіх Рэдактароў беларускіх газэт надрукаваць на страніцах газэт пра наша цяперашняе становішча.

З сярэдзіны лета г. г. і да цяперашняга часу мы, як Беларусы, клапаталі і клапочам перад панамі Вялейскім Школьным Інспэктарам, Куратарам і інш. адміністратыўнымі ўладамі аб тым, каб у нас была адчынена наша нацыянальная беларуская урадовая пачатковая школка ў зробленым намі пры вёсцы Ярэўшчына нашым школьным будынку, дзе зьмешчана й наша праваслаўная цэркаўка, у якой мы хочам вучыць сваіх дзяцей лікам каля 100, а можа й болей асоб, але наша просьба й да гэтага часу застаецца толькі просьбай—голасам вапіючага ў пустыне. Цяпер п. Інспэктар прыслаў да нас нейкага вучыцеля адчыняць польскую ўрадовую школку замест прошанай намі беларускай урадовай школкі, а каб мы ахвотна пасылалі туды сваіх дзяцей дык гэты вучыцель кажа, што ён будзе 2—3 гадзіны ў дзень вучыць дзяцей паруску. Мы ўжо й самі не разумеем, хто тут вінаваты, ці мы, затое што мы ёсьць беларусы, ці хто іншы, але тут нешта робіцца як у Вавілонскім стаўпатварэньні: калі муляры прасілі вады, дык ім падавалі пясок.

Мы пытаемся ў усяго сьвету, дзе нам знайсьці праўду. Мы сумна, сумна крычым „гвалт!", бо мы дужа пакрыўджаны.

24. XII. 1921 г. Солтыс Ярэўскага абводу Філіп Галюк. Солтыс вёскі Куралішычы Нікалай Цыбульскі, Андрэй Полоз, Васілій Яршэвіч, Нікалай Цыганок, Александр Яршэвіч, Васілій Юрыцкій, Барыс Сарока, Д. Вербовскій, Г. Крывіцкій, Іван Полаз.

За 23 няпісьменных па іх асабістай просьбе і за сябе падпісаўся Н. Бернацкій, С. Сьвірыда".

### М. **Докшыцы**, дунілаўскага пав.

Па загаду ваяводы Новагародзкага, ў месьце, як маючым меней 10,000 жыхароў, істнуючы магістрат зьніштажаецца і прадстаўнікі ад места разам з прадстаўнікамі ад воласьці складаюць „Раду гмінну".

Хаця Докшыцы ніколі ня мелі самавітага мейсца ў гісторыі, але лежачы на тракту Полацак—Менск ня раз руйнаваліся і знасілі цяжар чужацкага панаваньня, ня раз дыміліся ад пажараў і ня раз паліваліся чалавечаю крывёй. Такім чынам, Докшыцы маюць ўсёж-такі сваю мінуўшчыну.

У мяйсцовых архіўных дакумэнтах назоў места Докшыц сустракаецца ў 1514 годзе, калі князь Канстантын Астрожскі робіцца патронам тутэйшай Кузьмы-Дземянскай царквы. Там знаходзім, што Докшыцы лічацца добрай маемасьцю выдатнага беларускага магнацкага роду Кішкоў, дзе ўжо ў 1608 годзе будуецца касьцёл, для якога, біскуп Жмудзкі—Станіслаў Кішка ахвяруе даход з двара (маёнтку) Туркі, што ў 5 вярстох ад места. Гэту ахвяру ў 1609 годзе кароль Жыгімонт III на сойме Варшаўскім—зацьвердзіў.

У 1708 годзе прахадзіўшыя швэдскія войскі палюць і нішчуць да — шчэнту места, не пашкадаваўшы навет касьцёлу. Доўгі час праходзіць, пакуль зноў места адбудавалася. Толькі ў 1753 годзе адбудаваўся касьцёл, каторы істнуе да цяперашняга часу.

Ня менш места руйнавалася і палілася пры валадарстве французаў у 1812 годзе.

З 1795 г. (па трэцяму разьдзелу Польшчы) места Докшыцы прылучана да Расеі і робіцца павятовым местам, якім было да 1798 году, калі павет быў перанесены ў Барысаў. Па скасаваньні павету места стало „заштатным" да цяперешняга часу; жыхары былі застаўлены на правох гарадзкіх, маючых для спраў паміж сабой Ратушу, каторая паступова з'іначалася ў Гарадзкую Думу, Гарадзкую і Мяшчанскую Управу, Гарадзкое Самаўпраўленьне, Магістрат (пры Польскай уладзе) і толькі з 1 сту-

---

князь, прадаў нямецкім агентам кавалак лесу, скінуў старога аканома-латыша, пасадзіўшы на яго ваканцыю новага чалавека, нейкага эстонца, і посьле першых восенных маразкоў зьехаў ізноў за граніцу.

Скрозь усё лета, сьвяточнымі днямі, хадзілі да князя асмолаўцы гаманіць пра пашу, пра ўругу і абрэзы. — „Навёз аканом каморвікаў ды грабараў, — жаліліся яны князю, — прырэзаў вокрайкі нашых шнуроў да лесу вашай сьветласьці і рыштам (канавaю) адзначыў; дык ці ня будзець на гэта якое паляпшэньне?" — „Пачакайце,— ласкава казаў князь, аглядаючы стрэльбу ці лезучы з тым чужаземцам на лавецкія дрожкі, — пачакайце, добрыя людцы!" — і зачынаў нешта балбатаць па басурманску з сваім сябрам-дылдаю. Даведаліся асмолаўцы, што князь ізноў выехаў заграніцу, і бяз тэй цяпер цэрамоніі рушылі будзённым мокрым днём, сярод хлюпы, да канторы эстонца. Зазлаваўся новы аканом, счырванеў, гаўкнуў, як які сабака: „Будзем падаждаць!" — і пайшоў аглядаць гаспадарку.

... А ззаду кляноў і ліпін, над радам нізкіх будынкаў высачэець закапчоны комін бровару.

Усю зіму асмолаўцы і гарадчане пояць ля бровару ў Плёсцы калматых, дробных зманежаных коні, ускачаваюць на сані на двух дошках важкія бочкі са сьпіртам і скідаюць парожнія. І на старым шляху ўзімку троху клумней і весялей. Іногды цягнуцца даўжэнныя абозы на Шчасны з хлебароднае Амсьціслаўшчыны. Вязуць людзі, апранутыя ў шэрыя жупаны, падбітыя аўчынамі, ад купцоў сваю і панскую пяньку, канаплянае семя і лён, і з нейкім грэбуючым брыдкім цікам паглядаюць на белыя сьвіткі асмолаўцаў; яны пільнуюць свой свайго; як варочаюцца дамоў з бакалейным і красным таварам, не даюць дарогі перад вазамі асмолаўцаў, ім карціць сьцебануць пугаю чужую кабылёнку, а на заезным двары вясёла жартуюць, маюць сябе за панібрата з гаспадаром Еськам, п'юць гарэлку кучкамі, ядуць сала і драчоны і са сьмехам міргаюць той-таму калі высокі белабрысы і з дзьвюма-трыма валасінкамі ў барадзе асмолавец у сваёй сьвітцы — „на вілачках божы страх" — і ў жыдзенькіх, не па сьцюжы, пасканных штанах, туляючыся і хаваючы вочы, адзінцом вып'ець сотку, згрызець сухі таран, прымасьціцца рачком у дзіравых саначках-копаніках і патурыць хударлявую сваю кабылку з белымі ад шэрані бакамі ў бок драмотнага Асмолава.

Блізкасьць Лугвеніна з яго корчмамі і князёўскім броварам губіць нашу вёсачку. Стары шлях сьведкай таму, колькі зьмёрзла на ім нядбалых асмолаўцаў на дарозе са станцыі Шчаснае, з-за Няпра, куды цягаюць сьпірт. Бацька Няпро сьведкай таму, колькі залілося іх з п'янаю пагардаю і няўважнасьцю да жыцьця.

...Дзікай травою красуюць палеткі. Гніюць і правалiваюцца стрэхі. Хлопцы едуць у шахты, на фабрыкі і заводы. Часьцей шлюць дамоў пісьмы з паклонамі, радзей — грашавыя пераводы. Што году наяжджаець начальства з грудам крадытораў (пазыччыкаў) і гандляроў да Асмолава на продаж мужыцкай маемасьці з торгу. І сьмяюцца: прадаваць бо няма чаго. А нашыя дзядзькі і бацькі ўсё цягнуць і цягнуць князеўскі сьпірт, усё больш і больш замыкаюцца ў сабе. Ат, Бог і з ім, са сьветам, клумным і не зразумелым; Бог і з ім, з горадам, чужым, амбітным кіраўнічым. Усё шчыльней пільнуюць дружбы асмолаўцы, хаваючыся адзін ад аднаго, з шынкарамі Лугвеніна, кажучы ім у хмялю: „Отто-ж, пыні, і вашая доля ня лепшая: згнецены вы ў мясьцечку, як тыя селядцы ў селядоўцы, трэба-ж хлеб прамысьляць". І ўсё дружней клянуць іх за зрадніцтва, зышоўшыся разам ў аднэй хаце асмолаўскай. Усё сьмялей ідуць дзяўчаты і салдаткі ў месьцячковыя ваданоскі. Усё пільней кукобяць думку асмолаўцы аб нейкім дзіве, ці-то яб зямлі, ці-то аб волі. Нехта аб'явіцца і прынясець дзіва з сабою. Аб'явіўся год пяць таму назад у Гарадку „прарок", начытаны ў Бібліі і Брусавым календару. — «Трэба адно забіць са сьвяшчэннымі псальмамі дзіцёначка - мусіяша, што арадзіўся ў майго суседа, і зробіцца Лугвеніна пупам зямлі, запануець мір і красаваньне народаў, а сам я ўзьнясуся на неба». Задурыў прарок мужыкоў: забілі хлопчыка. Узьлез ён на гумно ляцець на неба і споўз нісчымна, — заказала паліцыя ў зялезы. Гады тры бавілі па судох, па вастрогах. Наяжджалі вучоныя прафэсары, абмяралі чырвоным матузком і бліскучым цыркулем прароку і выдатнейшым асмолаўцам галовы, глядзелі ім у рот і на зубы, як цыганы, таргуючы каня. Тым справа абыйшлася. Усіх выпусьцілі „на волю"...

Нехта бавіцца вякамі і ня прыходзіць.

...Адылі-ж і тут бываюць гульні і сьмех, ігрышчы і вечарынкі. Пілілікаець на старай, дрынчатай, чарвівай скрыпцы дзядзька Цімох. Як саромлівая дзяўчынка навучаецца скокам на гумне за асецьцю, таксама асмолаўцы, свае сярод сваіх, вясёла гоцаюць,—казаў той—камары,—таўпесяцца пад гукі „мяцеліцы" ды „лявоніхі" і пяюць экспромтам сьмехатворныя прыпеўкі. Гэтак бесклапотнае дрэўца пышна зелянеець, хаця-ж злыбедная машкара выела яго сэрца.

...У старой, пахіленай хатцы, ля самага краю Асмолава, і нарадзіўся сьціплы (скромны) герой нашае гісторыі Хомка, што ўпасьледку дастаў прозьвішча Шпака.

(Далей будзе).

